БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

13 кастрычніка 1994 г.
Чацвер
№ 109(13826)
Кошт у розніцу 10 рублёў
Выдаецца з 1921 года

У НУМАРЫ:



Малюе Віктар ДУБОВІК






Хто складзе касцёр?

Фота Сяргея БРУШКО.

ЭКАНОМІКА

## Тым жа салам ды па тых жа ранах

На большасці рэспубліканскіх прадпрыемстваў зараз непраглядная сітуацыя. Ідзе спад вытворчасці. У цяжкім становішчы апынуліся многія, у тым ліку сталічныя, фабрыкі і заводы. У прыватнасці, выпуск аўтамабіляў "МАЗ" у гэтым годзе скароціцца, канстатаваў генеральны дырэктар аўтамабільнага завода М.Лаўрыновіч, з 29 да 22 тысяч машын, а з канвеера трактарнага замест 100 тысяч "МТЗ" сыдзе ўсяго 60 тысяч, — прывёў лічбы генеральны дырэктар ВА "Мінскі трактарны завод" В.Філіпаў. Прадпрыемствы загнаны ў кут высокай інфляцыяй беларускага разліковага білета. А таму няма ў вытворцаў упэўненасці ў заўтрашнім дні.

Адным словам, для такіх невялікіх краін, як наша, машынабудаванне — цяжкае выпрабаванне. Сам па сабе беларускі трактарна-машынабудаўнічы рынак малы. Ён не можа акупіць уласную вытворчасць, а расійскі, украінскі селянін таксама не мае ў дастатку грошай. У выніку цэнтры па рэалізацыі тых жа трактароў (а іх на тэрыторыях блізкага замежжа аж 150), запазычылі заводскай казне больш як тры мільярды расійскіх рублёў. З-за гэтых і іншых прычын прадпрыемства працуе "з колаў", на тэрыторыі таго ж трактарнага значна павялічылася колькасць неўкамплектаваных машын. Не лепшае становішча і на маторным заводзе.

"Вось і мяркуйце, як хочаце, — абураўся намеснік генеральнага дырэктара па транспарту і збыту ВА "Мінскі трактарны завод" І. В. Сурко. — Раней, дарэчы, шыны ў асноўным атрымлівалі з Бабруйска. Але да гэтага часу завод з-за фінансавых цяжкасцей прастойвае. Праўда, знайшлі выйсце — атрымалі невялікую партыю шын з Днепрапятроўска. Але гэтага запасу хопіць, калі не адшукаем дадатковых сродкаў, на два-тры рабочыя дні. Да таго ж, Украіна — замежжа, усё ўскладнілася. Па-другое, каб рытмічна працаваць, неабходна мець абаротных сродкаў хоць бы на 18—24 дні. Фактычна ж працуем на тым, што атрымалі ўчора. Адсюль збоі. А тут яшчэ мытня ўносіць свае "карэктывы". Па-трэцяе, склалася вельмі цяжкая сацыяльна-эканамічная сітуацыя, выкліканая хранічным неплацяжом спажыўцоў. А сёння, дарэчы, грошы ўсе дзверы адчыняюць".

Вось і б'юцца кіраўнікі аўтамабільнага, трактарнага, маторнага заводаў, каб хоць як разлічыцца за працу са сваімі калектывамі, пагражаюць даўжнікам санкцыямі. У прыватнасці, тым жа цэнтрам, якія не разлічыліся своечасова за прадукцыю, тавар не пастаўляюць. Адным словам, фінансавыя праблемы, беганіна і перапіска на гэту тэму забіраюць увесь рабочы і нерабочы час. Аднак становішча не выпраўляецца: не хапае "жывых" грошай ні ў пастаўшчыкоў, ні ў спажыўцоў. У доўг жа атрымаць нешта — фактычна немагчыма.

Сярод усяго гэтага хаосу рэформы ўсюды прабуксоўваюць. Гэта факт, ад якога нікуды не падзецца. І прычыны, зрэшты, вядомыя. У эканоміцы ўсё ўзаемазвязана і ўзаемазалежна. Калі цэны пачалі рэзка абганяць грашова-крэдытную масу, прадпрыемствы засталіся практычна без абаротных сродкаў. Вось таму яны і не плацяць адно аднаму, ходзяць па зачараванаму колу з працягнутай рукой. А крызіс неплацяжоў, у сваю чаргу, цягне за сабой небяспечнае скарачэнне аб'ёмаў вытворчасці, адсюль і неўкамплектаванасць тых жа трактароў, аўтамабіляў, якімі запруджаны тэрыторыі прадпрыемстваў.

Чарадзейная палачка на гэтым этапе для трактарабудаўнікоў — экспартныя пастаўкі. Але яны не вельмі трывалыя.

Адным словам, спецыялісты прадпрыемстваў абураны: неабходна стабілізаваць курс беларускага разліковага білета. Дарэчы, нашых "зайчыкаў" вытворцы рублём і не называюць, а менавіта "разліковым білетам". Гіперінфляцыя, якая ўжо ў пячонках людзей, прымушае вытворцаў падымаць цэны на прадукцыю не на некалькі працэнтаў у месяц, а на некалькі дзесяткаў працэнтаў. У прыватнасці, калі цана на трактар "Беларусь" з 22 жніўня па 22 верасня была 18 мільёнаў 300 тысяч, то з 26 верасня ўжо вырасла да 26 мільёнаў 200 тысяч беларускіх рублёў. У той час як за даляры трактары рэалізуюцца па таму ж кошту, што быў вызначаны задоўга.

Сёння гігантам індустрыі — МАЗу і МТЗ — вельмі туга: даводзіцца выбіраць становішча між слабым ростам вытворчасці пры высокай інфляцыі і моцным падзенні вытворчасці пры памяркоўным росце цэн. Да якога часу будзе заставацца гэтая сітуацыя — адказаць складана.

У адным з пратаколаў нарады ў генеральнага дырэктара ВА "Мінскі трактарны завод" ёсць наступны запіс: "Да канца месяца трактары даўкамплектаваць, прадаць і сканцэнтраваць намаганні на выпуску экспартных машын".

Запіс, што і казаць, важны. Аднак, калі праз нейкі час я пацікавіўся, як ідуць справы, спецыялісты завода не змаглі нічога канкрэтнага адказаць: па-першае, — канстатавалі яны, — пасля доўгага перапынку вернуцца да станкоў рабочыя, і, натуральна, канвеер ажыве, але будуць выраблядца новыя трактары, бо людзям трэба даць зарабіць на хлеб і да яго; па-другое, няма лішніх вузлоў і камплектуючых, тых жа, напрыклад, шын. Да ўсяго, 567 рухавікоў на сёння, якія паставіў маторны завод, без стартэраў. Там тая ж праблема — няма грошай, каб закупіць іх у Расіі. Словам, тым жа салам ды па тых жа ранах.

...Мяняецца час — мяняюцца сюжэты. Іншы раз яны навяваюць сум. Вось таму, я мяркую, сёння трэба ўсім вытворцам узважыць становішча рэчаў у галіне, задумацца над набалелымі пытаннямі, якія аднолькава хвалююць як трактарабудаўнікоў, так і пастаўшчыкоў камплектуючых, дзе б яны ні жылі, вырашыць праблемы на дзяржаўным узроўні і прывесці да адной роўніцы.

Гэткая мая пазіцыя. А вось што думаюць на гэты конт дэпутаты? Ці бачна ім святло ў канцы тунеля? Варта памятаць, што ад рытмічнасці работы прадпрыемстваў залежыць узровень жыцця народа, які іх абраў у дэпутаты.

Валянцін БАРЫСЕВІЧ.

## Кур'ер "ЧЗ"

### ЮБІЛЕЙНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

*Факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта з нагоды свайго пяцідзесяцігоддзя правёў Рэспубліканскую навукова–практычную канферэнцыю "Беларуская інфармацыйная прастора: сучасны стан і перспектывы".*

На працягу трох дзён на журфаку працавалі секцыі "Праблемы стылістыкі і культура мовы сродкаў масавай інфармацыі", "Нацыянальнае тэлебачанне і радыёвяшчанне: сучасная мадэль развіцця", "Дынаміка развіцця беларускага друку". На пленарным пасяджэнні выступілі дэкан факультэта прафесар Алег Слука, міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч, прафесар Гарэт Прайс — прадстаўнік місіі ЮНЕСКА (Вялікабрытанія), прафесары Міхась Цікоцкі, Барыс Стральцоў.

На пасяджэннях секцый удзельнікі юбілейнай канферэнцыі абмеркавалі праблемы, узнятыя ў дакладах прафесароў факультэта журналістыкі А.Наркевіча, Я.Радкевіча, Е.Бондаравай, І.Саchанкі, вядучых дацэнтаў Н.Фральцовай, Т.Кірылавай, А.Плаўнік і іншых.

На канферэнцыю былі запрошаны навукоўцы і практыкі, рэдактары і карэспандэнты рэспублікі і замежжа.

Святлана КУЛІКОВА.

### ДАЛУЧЫМСЯ ДА ЕЎРОПЫ?

*Да правядзення форуму ў Мінску рыхтуюцца ініцыятары стварэння на Беларусі грамадскага руху "Вялікая Еўропа".*

За мяжой гэты рух узначальваюць зараз Саюз еўрапейскіх федэралістаў, Міжнародны камітэт пад кіраўніцтвам М.Гарбачова, Міжнародная асацыяцыя, старшынёй якой з'яўляецца Жак Шырак. У рух уваходзяць вядомыя грамадскія дзеячы іншых краін. Сваю задачу стваральнікі "Вялікай Еўропы" бачаць у тым, каб садзейнічаць не толькі эканамічнай, але і культурнай, адукацыйнай, сацыяльнай інтэграцыі Еўропы, і забяспечваць такім праектам палітычную падтрымку, дапамагаць іх здзяйсненню. Беларускія прыхільнікі руху ставяць мэтай уваходжанне рэспублікі ў еўрапейскае супольніцтва і фарміраванне ў ёй "паўнацэннага еўрапейскага адкрытага грамадства". Свой рух яны разглядаюць як альтэрнатыву дзейнасці і БНФ, і Народнаму руху Беларусі, і выступаюць за развіццё і ўмацаванне Садружнасці Незалежных дзяржаў. Ініцыятыўная група, у склад якой уваходзяць прадстаўнікі партый, гуманітарных і аналітычных цэнтраў, інстытутаў, асацыяцый збіраюцца правесці ўстаноўчую канферэнцыю "Вялікай Еўропы" у снежні.

Наталля ВАЛАКІДА.

### "БЕЛАРУСЬ ВЫБРАЛА ПРЭЗІДЭНТА, АЛЕ НЕ ВЫБРАЛА СВАЁЙ БУДУЧЫНІ" –

*такая думка экспертаў, якія па ініцыятыве нацыянальнага цэнтра стратэгічных даследаванняў прааналізавалі першыя прэзідэнцкія выбары ў Беларусі.*

Прадстаўнікі нацыянальнага цэнтра стратэгічных даследаванняў "Усход—Захад" абнародавалі вынікі даследавання прэзідэнцкай гонкі. Над ім працавала цэлая каманда спецыялістаў у галіне паліталогіі, сацыялогіі, сацыяльнай псіхалогіі, эканомікі і права. Аўтары падкрэсліваюць, што Беларусь доўгі час адрознівалася асаблівай кансерватыўнасцю як палітычных эліт, так і насельніцтва. На думку экспертаў, сярод былых рэспублік СССР яна менш за ўсё імкнулася праводзіць рэформы грамадскіх інстытутаў на карысць рыначнай эканомікі. Скрыта або яўна гэта адлюстравалася ў пазіцыях кандыдатаў у прэзідэнты, іх праграмах і заявах. Паводле прагнозу аўтараў даследавання, няпэўнасць, паслядоўнасць дзеянняў грамадскіх сіл будзе суправаджаць Беларусь і ў бліжэйшай будучыні. І, як сведчаць вынікі апытання, гэта можа расцягнуцца на дзесяцігоддзі. Аўтары таксама канстатуюць, што, прыняўшы ўдзел у выбарах, народ прагаласаваў за радыкальныя змяненні ў палітыцы.

У даследаваннях прааналізавана паражэнне С.Шушкевіча. Эксперты прыйшлі да вываду, што бесперспектыўна праводзіць палітыку цэнтрызму ва ўмовах, калі рэформа практычна застапарылася. У даследаваннях адлюстраваны таксама погляды апытаных на цяперашнюю палітыку каманды прэзідэнта.

### СВЕЖЫ ПОГЛЯД НА СТАРЫЯ ПРАБЛЕМЫ

*"Армія Краёва на тэрыторыі Заходняй Беларусі (чэрвень 1941— ліпень 1944 гадоў)"— так называецца сумесная канферэнцыя беларускіх і польскіх вучоных–гісторыкаў, якая адкрылася ў Гродна.*

Галоўнай яе тэмай сталі праблемы, звязаныя з савецка-польскімі і беларуска-польскімі адносінамі напярэдадні і ў ходзе Другой сусветнай вайны. Арганізавалі гэту двухдзённую сустрэчу таварыства "Беларусь — Польшча" і "Польшча — Беларусь", Гродзенскі дзяржаўны універсітэт, Саюз палякаў у Беларусі і іншыя зацікаўленыя бакі.

БЕЛІНФАРМ.

### НОВАЕ АБ'ЯДНАННЕ

*У Маладзечна ствараецца аб'яднанне маладых патрыётаў Беларусі (АМПБ).*

Гэта непалітычная арганізацыя моладзі, мэта якой — садзейнічаць адраджэнню і развіццю беларускай нацыі. АМПБ мае намер спрыяць распаўсюджванню багатай беларускай культуры, аднаўленню гістарычнай памяці, абуджэнню нацыянальнай свядомасці нашага народа. Новае аб'яднанне будзе таксама абараняць правы моладзі і ахоўваць навакольнае асяроддзе.

### ПАДАРУНАК ВІЦЭ–ПРЭМ'ЕРА

*У фонд Маладзечанскай спецшколы–інтэрната № 2 паступіла больш як мільён рублёў ад віцэ–прэм'ера Рэспублікі Беларусь В.І.Ганчара.*

Гэтыя грошы былі зэканомлены Віктарам Іосіфавічам у час яго паездкі на Міжнародную канферэнцыю ААН па народанасельніцтву і развіццю. Аплачвала паездку Арганізацыя Аб'яднаных нацый.

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

### Курсы валют на 12 кастрычніка:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 4500 | 4730 | 2960 | 3001 |
| "Прыор" | 5000 | 5200 | 3250 | 3400 |
| "Дукат" | 4650 | 4900 | 3000 | 3400 |

ПАМЯЦЬ

## Інтэрнацыяналісты аб'ядноўваюцца

Упершыню прадстаўнікі раней разрозненых грамадскіх аб'яднанняў ветэранаў вайны ў Афганістане, іншых лакальных войнаў сабраліся на І Беларускі рэспубліканскі з'езд, які адбыўся 8—9 кастрычніка ў Калодзішчах, што пад Мінскам.

У рэзалюцыі, прынятай з'ездам, указваецца, што неабходнасць склікання гэтага форуму прадыктавана сур'ёзнымі праблемамі, якія існуюць у ветэранскім асяроддзі ва ўмовах радыкальных сацыяльна-эканамічных і палітычных перамен у рэспубліцы. Ацэньваючы фізічны і духоўны стан удзельнікаў войнаў, з'езд меў на ўвазе адносіны да іх дзяржавы і грамадства як да людзей, пацярпеўшых ад вайны, на якой яны знаходзіліся не па сваёй волі, а па волі дзяржавы і яе палітычнага кіраўніцтва.

У рэзалюцыі таксама канстатуецца, што змена дзяржаўна-прававога становішча Рэспублікі Беларусь з распадам СССР, уступленне яе на шлях самастойнага дзяржаўнага будаўніцтва па ўсіх нормах міжнароднага права і чалавечай маралі не могуць служыць падставай для пагаршэння фізічнага і матэрыяльнага стану ўдзельнікаў афганскай і лакальных войнаў, перш за ўсё тых, хто атрымаў раненні, кантузіі, калецтвы і мае вялікую патрэбу ў дапамозе.

На тэрыторыі Беларусі ўдзельнікі войнаў, складаючы 0,3 працэнта ад насельніцтва рэспублікі, маюць найбольш складаную карціну фізічнага, душэўнага і псіхалагічнага стану ў сваім асяроддзі. З 30 з паловай тысяч удзельнікаў гэтых войнаў, і перш за ўсё афганскай, 737 чалавек загінулі, 1500 паранены і кантужаны, больш чым 800 сталі інвалідамі. Практычна ўсе маладыя ветэраны падвяргаюцца постваеннаму сіндрому, які параджае хваробы і псіхічныя расстройствы.

У рэзалюцыі ўказваецца, што адсутнасць у дзяржаве дакладнай праграмы і сістэмнай работы па рэабілітацыі і прафілактыцы захворванняў гэтай катэгорыі людзей, пратэзавання і забеспячэння неабходнымі лякарствамі, дрэнныя сацыяльна-бытавыя ўмовы з'явіліся адной з прычын таго, што пасля вываду войск з Афганістана ветэраны нясуць сур'ёзныя страты. 129 з іх памерлі ад ран і хвароб, 120 сталі інвалідамі, 29 скончылі самагубствам, 152 знаходзяцца ў турмах і папраўчых калоніях.

З'езд звярнуўся да прэзідэнта, урада, Вярхоўнага Савета рэспублікі з просьбай прыняць неадкладныя меры па недапушчэнню далейшага зніжэння ўвагі дзяржавы да ветэранаў вайны. У першую чаргу неабходна адрасная дапамога тым, хто мае вялікую патрэбу ў пратэзаванні, лячэнні ў замежных клініках, забеспячэнні дэфіцытнымі лякарствамі.

Удзельнікі з'езда палічылі неабходным стварыць каардынацыйны грамадскі савет з прадстаўнікоў удзельнікаў вайны з рэгіёнаў рэспублікі і існуючых арганізацый. Работа савета будзе будавацца на дэмакратычных асновах, без ушчамлення правоў і ініцыятыў абласных, гарадскіх, раённых і іншых ветэранскіх структур.

Своеасаблівым працягам І Беларускага рэспубліканскага з'езда ветэранаў вайны ў Афганістане і іншых лакальных войнаў, які прайшоў 8—9 кастрычніка ва Уруччы пад Мінскам, стала прэс-канферэнцыя ў нацыянальным прэс-цэнтры.

Адказваючы на пытанні прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі, лідэры грамадскіх саюзаў і аб'яднанняў ветэранаў Афганістана канстатавалі, што з'езд выканаў задачы, якія ўскладаліся на яго ўдзельнікаў. Нягледзячы на некаторыя арганізацыйныя рознагалоссі, дэлегаты ад усіх абласцей, рэгіянальных цэнтраў і раёнаў рэспублікі аднагалосна пастанавілі: стварыць каардынацыйны грамадскі савет з прадстаўнікоў усіх аб'яднанняў ветэранаў лакальных войнаў. Менавіта на гэты грамадскі і прадстаўнічы орган, кіраўніком якога аднагалосна выбраны Герой Савецкага Саюза лётчык-"афганец" Васіль Шчарбакоў, ускладзена задача аб'яднаць намаганні разрозненых раней "афганскіх" фарміраванняў рэспублікі для практычнага вырашэння праблем маладых ветэранаў.

БЕЛІНФАРМ.

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



Дзяжурныя па выпуску
перакладчык
Людміла КАХАВЕЦ,
рэдактар
Наталля ВАЛАКІДА.

### "Суперчэннэл"

#### ПАД ПАГРОЗАЙ ГОЛАДУ

*У Сараева прыбылі 20 самалётаў з гуманітарнай дапамогай.*

На іх было дастаўлена 200 тысяч тон прадуктаў харчавання. З-за абстрэлу двух самалётаў дастаўка прадуктаў у Сараева прыпынілася. Паводле паведамлення ваеннага камісарыята ААН, запасаў прадуктаў для 380-тысячнага горада засталося толькі на тры дні.

#### НА ГРАНІЦЫ – ТАНКІ

*Кувейт групіруе свае войскі на іракска–кувейцкай граніцы.*

Туды было накіравана 15 танкаў. Апрача кувейцкіх салдат, прыбылі 4 тысячы амерыканскіх. Асноўная задача войск — адбіваць нападзенні з боку Ірака. Як вядома, Кувейт пастаўляе 1/10 частку дабываемай у свеце нафты. Урад краіны заявіў, што больш ніколі не дазволіць паўтарыць трагедыю 1991 года і выказаў глыбокую ўдзячнасць саюзнікам за падтрымку і аказаную дапамогу.

#### САЦЫЯЛІСТЫ "ЗДАЮЦЬ"

*Прайшоў чарговы тур выбараў у Аўстрыі.*

Яго вынікі адлюстравалі нечаканае падзенне папулярнасці кіруючай сацыялістычнай партыі Аўстрыі, якая набрала на 7 працэнтаў менш галасоў, чым у папярэднім туры. Значных поспехаў у выбарах дабіліся малыя партыі. Так, напрыклад, свабодная партыя Аўстрыі ў гэтым туры набрала на 6 працэнтаў больш галасоў.

Асноўны вынік выбараў такі: сацыяльная партыя—66 працэнтаў галасоў, народная партыя — 52 працэнты і свабодная партыя — 42 працэнты.

### "Уорлднэт"

#### "КАЛАШНІКАЎ" ВАЮЕ Ў ІЕРУСАЛІМЕ

*Фундаменталісцкая арганізацыя Палесціны абвінавачваецца ў тэрарыстычным акце, які быў учынены ў Іерусаліме.*

Члены гэтай арганізацыі адкрылі агонь у заходнім раёне Іерусаліма — адной з самых заселеных частак горада. У выніку 2 чалавекі забіты, 4 у вельмі цяжкім стане знаходзяцца ў бальніцах. Паводле паведамленняў паліцыі, тэрарысты абстралялі таксама кафэ. Як паказалі сведкі, злачынцы былі ўзброены аўтаматамі "Калашнікава".

#### МІРАТВОРЧЫ ВІЗІТ

*Міністр замежных спраў ЗША Крыстофер прыбыў у Іерусалім каб прадоўжыць перамовы паміж Сірыяй і Ізраілем.*

Асноўная мэта перамоў — падпісанне мірных пагадненняў паміж Сірыяй і Ізраілем.

### "TV-5"

Другім важным пытаннем у ходзе візіту Крыстофера, будзе абмеркаванне напружанай абстаноўкі на іракска-кувейцкай граніцы.

#### ЗМЕНА КАМАНДУЮЧЫХ

*Камандуючы гаіцянскай арміі павінен пайсці ў адстаўку да 15 кастрычніка.*

Кандыдат на яго месца — намеснік цяперашняга камандуючага.Прэзідэнт Гаіці з групай ваенных накіраваўся на перамовы ў Вашынгтон.

#### УЗНАГАРОДА ЗА ТВОРЧАСЦЬ

*Іспанскі пісьменнік Джордж Земпрум атрымаў ганаровую прэмію за творчасць аб вайне. Цырымонія яго ўзнагароджання прайшла ў Франкфурце.*

Кнігі пісьменніка, які сам перажыў жахі Бухенвальда, прысвечаны выкрыванню нацызму і сталінізму. З 1988 года па сённяшні дзень Джордж Земпрум займае пасаду міністра культуры Іспаніі.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

